# БЕЛАРУСКАЯ ПРАЎДА

АДНАДНЁЎКА

Вільня, 12 Траўня 1931 г.


## АД РЭДАКЦЫІ

Наша грамадзкае жыцьцё зайшло ў тупік, з якога трэба шукаць выхаду.

Перад кожным сьвядомым беларусам, які цікавіцца нашым сучасным жыцьцём—стаіць пытаньне—якім чынам мы можам перамагчы наш грамадзкі крызіс.

Каб знайсьці адказ на гэтае пытаньне—мы павінны зусім адкрыта выявіць ўсе тыя язвы, што разьядаюць нашае грамадзкае жыцьцё—і толькі тады мы здолеем намеціць новыя шляхі, па якіх павінна пайсьці нашая грамадзкасьць. Мы добра ведаем, якія вынікі для нашага жыцьця дала дзеяльнасьць тых людзей, якія займаліся вульгарнаю дэмагогіяй, будучы толькі сьляпымі выканаўцамі варожых нам сілаў.

Мы ведаем чым закончылася акцыя Грамады, у якую наша сялянства верыла, як у нацыянальна-радыкальную арганізацыю, маючую на мэце барадзьбу за нашыя нацыянальныя і культурныя ідэалы.

Выезд за граніцы правадыроў Грамады і падпарадкаваньне іх камінтэрну паказала нашаму нацыянальна-сьвядомаму грамадзянству, што яму не па дарозе — з п. п. Тарашкевічам, Мятлой і іншымі пакінуўшымі наш край і стаўшымі ў рады тых, якія душаць цяпер у З. Беларусі наш адраджэнчаскі рух.

Гэтыя людзі з такім пасьпехам стараліся „прычаліць“ да камуністычнага берагу, што нават забыліся пра сваіх таварышоў, пакінутых імі ў вастрогах.

Дзеяльнасьць Змаганцаў, лічыўшых сябе спадкаберцамі Грамады, аканчальна дакончыла разбурэньне нашага грамадзкага жыцьця. Пасьля іх асталіся толькі руіны, якія абрастаюць быльнікам...

Замест пазытыўнае і творчае працы — яны ўвялі ў культ дэмагогію і шмат прычыніліся, разам з камуністамі, да паніжэньня тэмпу нашага грамадзкага жыцьця, прычыніліся да таго сумнага зьявішча, якое мы цяпер наглядаем, калі даволі значная частка нашага грамадзянства, дзякуючы тым паном, пачынае баяцца ўсяго беларускага, як нечага такога, ад чаго не абярэшься розных няпрыемнасьцяў.

Аднак ўсе гэтыя язвы можна лічыць, што ужо ўскрыты і значная большасьць нашага грамадзянства мае ўжо аб гэтым свае пераконаньні; здавалася-б, што пасьля бесслаўнай сьмерці усіх тых арганізацыяў, якія займаліся толькі разбурэньнем і больш нічым — павінна была наступіць новая эра у нашым жыцьці.

Некаторыя думалі, што гэтая запраўды новая эра распачнецца з дзеяльнасьці г. зв. „беларускай санацыі“, з сумленнага супрацоўніцтва з польскім грамадзянствам.

Аказалася, што працэс разлажэньня, не закончыўся яшчэ ў нашым жыцьці.

Ён мусіць дайсьці да канца і толькі тады, з таго грамадзкага бязладзьдзя, якое мы маем—пачнуць тварыцца новыя, здаровыя формы жыцьця.

Нашая беларуская санацыя на чале з Астроўскім і Луцкевічам зьяўляецца нічым іншым, як заканчэньнем гэтай фэрмэнтацыі, прадуктам гніеньня нашай грамадзкасьці. Назваць яе „санацыяю“ г. зн. такою сілаю, якая павінна ўнесьці аздараўленьне немагчыма, бо яна сама зьяўляецца хворым арганізмам.

Нам трэба толькі выявіць яе хваробу, паказаць яе запраўднае аблічча — і гэта здаецца будзе пачаткам канца дзеяльнасьці тых людзей, якія таксама прабавалі нацягаць на сябе шаты „грамадаўцаў“ і лічыць сябе яе насьледнікамі. Запраўднай „санацыі“ ў нас ня было, як наагул у нас ня было нічога здаровага у грамадзкім жыцьці, бо ўсё да гэтага часу кіравалася дэмагогіяй і абманам.

Тая група людзей, якая займае „полёнофільскі вучастак“—фактычна ня выконвае свайго заданьня. Яна баіцца свайго полёнофільства, яна ня імкнецца ўгрунтаваць яго ідэолёгічна, яна не праводзіць ніякай акрэсьлянай грамадзкай думкі.

Паўстае пытаньне: кім запраўды зьяўляюцца тыя людзі, якіх называюць беларускай санацыяй?

Вось як раз гэтаму пытаньню і пасьвячаецца „Белар. Праўда“.

Мы верым у тое, што ачысьціўшы наш запаганены грамадзкі грунт ад розных лжэ-грамадаўцаў, і „полёнофілаў“ нам запраўды ўдасцца разбудзіць грамадзкую думку і скіраваць яе ў той бок, які прынясе найбольш карысьці для нашае справы.

## Пара сказаць праўду...

Акалічнасьці так злажыліся, што я летам, мінулага году, апыніўся сярод тае групы людзей на чале якой стаяць А. Луцкевіч, Р. Астроўскі і А. Трэпка.

Я ўвайшоў у гэтую групу па той прычыне, што на беларускім грунце лічыў яе адзінаю групаю, якая ў супрацоўніцтве з польскім арганізаваным грамадзянствам павінна была імкнуцца да творччае пазытыўнае працы на карысьць нашага народу.

Прычыны, якія змусілі мяне не падпарадкавацца большасьці звольненых з вастрогу грамадаўцаў, выехаўшы, у Саветы, пададзены мною ў асобнай брашуры—дзеля таго на гэтым пытаньні затрымоўвацца ня буду.

Скажу толькі адно, што ў той час, калі я пісаў гэтую брашуру (студзень і люты 1931 г.) ніколі ня думаў, што сам б. старшыня Грамады, сваёю шкоднаю для беларускае справы працаю, пацьвердзіць мае разважаньні аб прычынах выезду грамадаўцаў заграніцу.

Арышт Тарашкіевіча і „усыпка“ ім многіх людзей, прозьвішчы якіх знайшлі ў яго партфэлі, яскрава сьведчаць, што гэты чалавек займаўся справамі нічога супольнага ня маючымі з беларускаю нацыянальнаю справаю. І на гэтым пытаньні затрымоўвацца ня буду, бо хутка надыйдзе час, калі яно стане больш зразумелым для нашага грамадзянства.

У даным выпадку я маю на мэце высьвятліць аблічча тае групы, „ідэёвым“ кіраўніком якое зьяўляецца Ан. Луцкевіч. Добра пазнаўшы гэтых людзей і азнаёміўшыся з іх тактыкай і „праграмаю,“ я ня маю маральнага права маўчаць і павінен перад грамадзянствам ясна і шчыра высказаць усё тое ў чым я пераканаўся пад час свае працы.

Няшчасьцьцем для беларускага народу зьяўляецца тое, што за беларускую справу заўсёды браліся брудныя рукі, дзякуючы чаму гэтая справа, ў шмат якіх выпадках, носіць выразны характар баламутні, а тыя „дзеячы,“ якія займаюцца гэтаю справаю, больш падобны да афэрыстаў, чым да запраўдных грамадзкіх працаўнікоў.

Як гэта ня сумна, але ў гэтым трэба прызнацца і мець грамадзкую адвагу не замазваць нашых гнойных язваў, а выкрываць іх, каб гэтым самым знайсьці радыкальнае лякарства да аздараўленьня нашага грамадзкага жыцьця.

Тыя людзі, якім такое выкрыцьцё будзе не падабацца няхай крычаць, няхай з пенаю ў роце лаюцца—аднак мы, не зьвяртаючы на гэта ўвагі—павінны рабіць сваё, бо калі ня зробім гэтага і не ачысьцім наш беларускі грунт ад шкоднікаў справа нашая заглохне, прападзе і ў гэтым будзем вінаваты толькі мы самы і больш ніхто.

Справа наша забруджана, запаганена, заплёвана. Кожны шчыры грамадзянін, жадаючы дабра сваёй бацькаўшчыне, павінен згадзіцца з гэтым і павінен дапамагчы, каб супольнымі сіламі знайсьці выхад, знайсьці ратунак.

Палітычныя круцялі, якімі-б лёзунгамі яны ні прыкрываліся, якія-б шаты на сябе не ўскладалі—заўсёды астануцца тымі, кім яны ёсьць у запраўднасьці.

Усё нашае заданьне палягае на тым, каб сарваць з іх маску, і тым самым выкрыць і паказаць іх запраўднае аблічча.

Пабачыўшы іх у іх запраўдным выглядзе, грамадзянства само з’арыентуецца якім шляхам трэба ісьці і дзе, і як шукаць ратунку.

Уваходзячы ў рады групы Луцкевіча і Астроўскага я думаў знайсьці там людзей, якія сумленна і шчыра, шляхам супрацоўніцтва з польскім грамадзянствам, імкнуцца палепшыць лёс беларускага народу.

Я думаў, што гэтая група будзе ісьці да вызначанае мэты простаю дарогаю і спадзяваўся, што ў супольнай працы нам удасца вызначыць ідэолёгічныя вехі і выпрацаваць нейкую ясную і зразумелаю, як для нашага народу, так і для польскага грамадзянства, тактыку, не выклікаючую ні ў кім ніякага сумліву. Праз увесь час свае працы ў Цэнтрасаюзе і ў газэце я і імкнуўся да гэтае мэты, а таксама да пашырэньня і вядзеньня на правінцыі культурна—асьветнае працы праз чытаньне лекцыяў, закладаньне бібліатэкаў чытальняў і. г. д.

Але на вялікі жаль усе мае высілкі ў гэтым кірунку разьбіваліся і, як я пераканаўся, не маглі зьдзейсьніцца дзеля шмат якіх прычынаў, аб якіх я нават не дагадваўся.

Кожная група людзей, якая аб’ядныбаецца дзеля якой небудзь грамадзкай працы, нават, каб гэтая праца не насіла палітычнага характару і была чыста культурна—асьветнаю—павінна мець нешта агульнае, што аб‘ёднывала-б гэтых людзей.

Гэным „нешта“ павінна быць якая-небудзь ідэолёгія, падзяляемая ўсімі сябрамі такой групы, ідэолёгія, якая заўсёды зьяўляецца бліскаўкаю ў жыцьці, як паасобнага чалавека, так роўным чынам і групы людзей, аб‘яднаўшыхся дзеля агульнае грамадзкае працы.

Як раз гэтае неабходнае рэчы і ня можна знайсьці ў радох Луцкевіча і К°. У ёй усё што хочаш можна адшукаць, але толькі не якія-небудзь агульна прызнаныя ідэолёгічныя падставы, якімі можна было-б кіравацца ў грамадзкай працы.

жыцьці. Асабліва такое уяўленьне важна у сучасны мамэнт, калі пануе такая няпэўнасьць у міжнародных адносінах, калі мы ўсе жывем як бы у нейкім пераходным перыядзе, пасьля якога павінны выкрысталізавацца новыя формы жыцьця.

Беларускі народ мусіць прадугледзець па якой лініі пойдуць гістарычныя выпадкі ў будучыне, мала таго — мусіць скіраваць свае высілкі ў тым напрамку, у якім пойдуць гістарычныя падзеі.

Кожны сьвядомы чалавек, не гаворачы ужо аб палітыках, мусіць навучыцца разглядваць, што можа прынесьці нам бліжэйшая будучыня.

У залежнасьці ад таго, як розныя групы людзей вырашаюць гэтае пытаньне—яны і будуюць тактычную лінію свайго палітычнага захаваньня.

Адсюль паходзяць розныя „орыентацыі".

(Мы маем на ўвазе толькі орыентацыі з ідэёвым фундамэнтам і не бяром пад увагу шматлікія групы розных афэрыстаў, орыентуюцца толькі на сваю асабістую выгаду). Падыходзячы з гэтага пункту гледжаньня да справы, мы можам заўважыць у нашым грамадкім жыцьці такія орыентацыі: 1) Маскоўскую 2) Нямецка - Літоўскую і 3) орыентацыю на свае ўласныя сілы і сілы польскага арганізаванага грамадзянства (г. зв. полёнофіства). Орыентацыя на Маскву гэта значыць орыентацыя на Камінтэрн.

Той хто хоча, каб пры дапамозе усесьветнай камуністычнай цэнтралі вырашыць беларускае пытаньне—павінен пагадзіцца з тым, што ў нас могуць запанаваць савецкія парадкі з усім тым, што мы наглядаем цяпер у „соцыялістычных" савецкіх рэспубліках.

Некалі гэтая орыентацыя была амаль наймацнейшаю ў нашым грамадзкім жыцьці. Але прайшоў час, грамадзянства больш уважна разглядзелася ў тым, чым можа закончыцца „дапамога" Камінтэрну ў вырашэньні беларускага пытаньня нарэшце самі камуністы, асабліва пасьля разгрому беларускай культуры у Саветах, выявілі сваё запраўднае абліча—і ў выніку ўсяго гэтага лічба прыхільнікаў Камінтэрну зьмяншаецца з кожным годам.

Але трэба памятаць, што ўлада камуністаў у Саветах ня можа быць вечнай. Яна хутка зьгіне і на яе мейсца прыйдзе нейкая іншая.

І вось ёсьць людзі, якія хацелі-б бачыць будучую Расею „единой й неделімной", з нейкім царом на чале.

Гэтыя людзі чакаюць павароту манархіі.

Яны цяпер не выяўляюць сваіх палітычных думак, яны бязумоўна выявяць іх тады, каліб запраўды ў Расеі стварыўся манархістычны рэжым. Можна быць пэўным, што беларускага пытаньня будучая царская Расея ня вырашыць таксама, як ня вырашыла яе і тая, якая паваліліся ў 17 годзе. Для манархістаў ня існуець беларускага народу, а гэтым самым няма і ня будзе ніякага „пытаньня". Усё ясна і зразумела, але настолькі ясна, што з гэтым ня можа пагадзіцца ані адзін сьвядомы беларус.

Трудна дапусьціць, каб пасьля правалу камуністаў там запанаваў нейкі дэмакратычны лад.

Палітычная і клясавая барадзьба настолькі там завострылася, што ў выпадку зваленьня дыктатуры камуністаў у Расеі можа запанаваць улада тых клясаў, якія там цяпер прыгнечаны.

Можна быць пэўным, што яны створаць там моцную ўладу, бо на дэмакратызьме ўжо апякліся падчас урадаваньня Керанскага.

Нават каб дапусьціць (увашто ня верыцца), што ў выніку будучай рэвалюцыі вытварыцца дэмакратычная Расея — то яшчэ вялікае пытаньне, ці гэта Расея здолее вырашыць усе нацыянальныя праблемы.

Гісторыя нам даець прыклад, які ня вельмі нас можа захопліваць...

Цяпер разгледзім іншы кірунак—г. зв. германафільство, той кірунак, які на Украіне маець ужо вонкавыя правы і які на нашым грунце можна ўлавіць пакуль што у нясільных і малавыразных формах. Але тое, што носіць нявыразны характар — пры пэўных умовах, можа прыняць больш рэальныя формы.

І вось нашым абавязкам зьяўляецца выявіць усебакова — наколькі можа быць карысным гэты кірунак для нашай справы.

Тыя, хто хацеўбы вырашыць беларускае пытаньне „арыентуючыся" на Нямеччыну не здаюць сабе справы з вельмі важных рэчаў.

Перадусім трэба помніць, што Нямеччына ня існуець на сьвеце ізалявана, а цесна зьвязана Рапальскім дагаворам з Саветамі.

Той хто хацеў-бы абаперціся на Нямеччыну—гэтым самым будзе апірацца і на Саветы. Ні для каго не зьяўляецца сакрэтам, што ўся Эўропа падзялілася на два вялізарныя лягеры: на чале аднаго з іх стаіць Нямеччына з Саветамі, а на чале другога Францыя, Польша і іншыя дзяржавы.

Нішто ня вечна пад луной. Ня трэба быць прарокам, каб сказаць што рана ці позна можа пры пэўны умовах дайсьці да збройнага канфлікту паміж гэтымі сіламі.

І тады можа быць адно з двох: альбо Нямеччына з Саветамі будуць пабіты, альбо яны возьмуць верх. Пра першы выпадак гаварыць ня прыходзіцца: з хвілінаю перамогі Нямеччыны — усякае „германафільства" траціць грунт.

Дапусьцім, што зьдзейсьнілася іншая рэч: Нямеччына з Саветамі бяруць верх.

Тады ізноў можа быць два палажэньні: альбо зьдзейсьніваюцца пляны Камінтэрну і ўся Эўропа стане Савецкаю, альбо гэтага ня будзе і ў Нямеччыне, як і ў іншых дзяржавах застанецца стары грамадзкі лад.

Такі выпадак бязумоўна маець на ўвазе Нямеччына, ўваходзячы ў цесны саюз з Саветамі.

Але тады зьяўляецца пытаньне: якім спосабам распадзеліцца „сфэра уплываў" гэных двох саюзьнікаў?

На нашую думку скарэй усяго Саветы зьдзейсьнілі-б сваю праграму — мінімум, у выніку чаго нашы землі злучыліся-б з Менскаю Беларусьсю і аб'яднаная нашая Бацькаўшчына мела-б адналіты грамадзкі і палітычны рэжым, кіраваны камуністычнаю партыяю.

Што атрымала-б Нямеччына — нас у даным выпадку ня цікавіць.

Важна для нас толькі тое, што беларуская справа была-б пры такой камбінацыі вырашана так, як яна ўжо вырашана у Савецкай Беларусі, дзе ўсе вастрогі запоўнены шчырымі беларусамі.

Мы верым у тое і маем да гэтага падставы, што надзеі на магутнасьць Савецка-Нямецкага Саюзу бязумоўна завядуць тых людзей, якія будуюць на гэтым саюзе сваю лінію палітычнага захаваньня. Адзін з „контрагэнтаў" гэтага Саюзу — зьяўляецца балванчыкам на гліняных нагах, бо той грунт, на якім ён стаіць вельмі няпэўны: шматмільённыя сялянскія масы толькі чакаюць таго мамэнту, каб паваліць дыктатуру камуністаў.

Для Нямеччыны выгадны камуністычны рэжым у Саветах і яна матэрыяльна яго падтрымоўвае, бо добра ведае, што пры ўсялякім іншым рэжыме у гэтай дзяржаве яна страціць свайго галоўнага саюзьніка.

Нямеччына шмат прычынілася да устанаўленьня камуністычнай дыктатуры ў Саветах і яна зацікаўлена у тым, каб яна як мага даўжэй там трымалася.

Але якія-б высілкі яна не рабіла ў гэтым кірунку—час зробіць сваё і ў кам. Расеі запануюць новыя парадкі і тады Нямеччына будзе шукаць іншых саюзьнікаў.

Як бы там ні было кожны рэальны палітык ня можа вязаць будучыню свайго народу з вельмі няпэўным лёсам Нямецка-Савецкага Саюзу.

Рана ці позна гэты саюз разваліцца, не гаворачы аб тым, што ён на выпадак вайны будзе пераможаны іншымі, больш магутнымі сіламі.

Тая-ж самая Нямеччына была куды сільнейшаю падчас апошняй вайны, аднак мы добра ведаем чым гэтая вайна закончылася.

Вось чаму ўсякае „германофільства" у аканчальным разрахунку можа прынесьці нашаму народу і усёй нашай справе адны толькі беды.

Нарэшце нам трэба затрымацца на апошнім шляху — орыентацыі на свае ўласныя сілы і сілы польскага арганізаванага грамадзянства.

Мы лічым, што вырашэньне беларускага пытаньня, магчыма толькі тады, калі ў сваёй працы мы будзем апірацца на сільную Польшчу. Ніхто іншы, як яна найбольш павінна быць зацікаўлена у тым, каб наш народ адрадзіўся і выявіў з сябе адналітую нацыянальна-сьвядомую цэласьць.

За гэта гаворыць гісторыя і дзяржаўныя заданьні Польшчы ў будучыні. Не уваходзіць у нашую задачу узасадняць на гэтым мейсцы тыя плюсы якія Польшча будзе мець тады, калі Беларускі Народ атрымае паміма усяго іншага, нейкія формы незалежнага палітычнага жыцьця.

Зразумелым для нас зьяўляецца тое, што толькі ў цеснай лучнасьці з Польшчаю—Беларускі Народ змогбы захаваць гэтыя формы. Трэба пагадзіцца з тым, што дзякуючы розным прычынам, а галоўнае нашай слабасьці, мы ня можам разлічаць на тое, каб будучая аб'яднаная Беларуская дзяржава магла існаваць зусім ізалявана, не ўваходзячы ў нейкі цесны саюз з іншымі дзяржавамі.

Усё гаворыць за тое што гэты цесны саюз, можа быць саюзам, ці уніяй толькі з Польшчаю. Трэба нам прызнацца ў тым, што да гэтага часу многія беларускія палітычныя партыі захапліваліся толькі дэмагогіяю і шовінізмам.

Гэтага не павінна быць. Мусім ведаць, што ні адна дзяржава на сьвеце ніколі ня можа пагадзіцца з тым, каб грамадзяне тае ці іншае няцыянальнасьці не хацелі яе прызнаваць і вялі адносна яе „падрыўную" працу.

Не аздаровіўшы і не стабілізаваўшы сваіх адносінаў да польскага народу і польскай дзяржавы, мы не можам разьлічаць на зрэалізаваньне сваёй нават мінімальнай праграмы.

Як беларускі, так і польскі народ павінны знайсьці нейкі спосаб мірнага сужыцьця пры якім ня былі-б пакрыўджаны інтарэсы таго і другога.

Мы ведаем, што гэтае сужыцьцё не ў інтарэсах некаторых суседніх дзяржаваў і дзеля гэтага яны стараюцца з усіх сілаў перашкодзіць нашаму збліжэньню. Гэтыя перашкоды мы павінны перамагчы і мы пераможам. Мудрая і рэальная палітыка вымагаець каб мы адносіліся да тае дзяржавы, дзе жывём, зусім лёяльна, каб мы баранілі ў выпадку патрэбы інтарэсы гэтай дзяржавы і толькі тады гэта дасьць нам права дамагацца ад яе ўсяго таго, што патрэбна для нашага культурнага росту. Мы верым у тое, што польскае грамадзянства зразумее, як нашы так і свае гістарычныя заданьні і пойдзе тою дарогаю якая прынясець карысьць абоім братнім народам, пасвараным паміж сабою дзякуючы інтрыгам нашых супольных ворагаў.

*А. Ільменскі.*

# ШТО РАБІЦЬ?

Пасьля сусьветнай вайны на руінах расейскай манархіі закіпела змаганьне розных падняволяных народаў за сваю незалежнасьць. Але ня ўсе народы, што былі пад царскім маскоўскім ярмом, былі прыгатаваны да станоўчай і пабеднай барадзьбы. Некаторыя, зрабіўшы спробу свае вызваляючае барадзьбы былі змушаны паддацца сіле пераможцаў—насьледнікаў маскоўскага царскага гнёту. Такія народы далей цягнуць страшную лямку маскоўскай няволі, каторая зьмяніла толькі свой коляр на чырвоны.

І беларускі народ у часе агульна-вызваленчага руху выкарыстоўваў надаючуюся хвіліну, рабіў спробы барадзьбы за сваю незалежнасьць. Цяжкая была гэтая адраджэнска-вызваленчая праца, бо натта моцна ўся наша старонка была скавана ланцугамі цемры і шмат каму ня шла на руку яго незалежнасьць.

Паміма ўсіх перашкодаў беларускі народ, дзякуючы ахвярнай і вялізарнай працы сваёй, тады яшчэ нямногай інтэлігэнцыі, змог выявіць перад усім сьветам свае дамаганьні, апіраючыся на прыродныя кожнага народу правы: быць гаспадаром у сваёй зямлі.

25 сакавіка 1918 году паўнамоцнікі Беларускага Народу абвесьцілі акт незалежнасьці Беларусі.

Дарога—простая, мэта ясная: трэба было ўзяць у свае рукі ўладу, трэба было ачысьціць беларускую ральлю ад насаджанага злыбядой быльніку, трэба было змагацца фізычна з тымі, якія хацелі і далей панаваць над намі.

Беларускі народ гэтага ня змог.

Народныя масы яшчэ не былі прыгатаваны. Народ ад вякоў загнаны і трыманы ў цемры праз чужых і сваіх выродных вярхоў і туманены „рускай" царквой і іншымі чыньнікамі, быў у духовым заняпадзе; ён яшчэ належна не ацэньваў сваёй нацыянальнай справы.

Сьвядомая беларуская інтэлігэнцыя, каторая частково прабудзіла ў адпаведнюю часіну, загнаны свой народ і давяла яго да агалашэньня сваёй волі 25 сакавіка 1918 г., пераканалася, што народныя масы былі ня прыгатаваны да фізычнай барадзьбы за незалежнасьць. У беларускага народу ня было яшчэ тады агульнага патрыятычнага ўздыму, які мелі другія народы, што змаглі масова і дабравольна браць за аружжа і з гэтым аргумэнтам дамагацца свайго.

Беларускія вярхі бачачы, што народ яшчэ ня быў прыгатаваны да фізычнай барадзьбы—скажам проста: нацыянальна яшчэ ня быў сьвядомы, стараліся шукаць апоры ў суседніх народаў. Дзеля гэтага вярхі беларускага народу стараліся надаць беларускай адраджэнскай справе большы палітычны размах.

Гэта было асягнута: беларускі рух набраў вялікага размаху, зрабіўся галосным і палітычна шмат папярэдзіў культурна-асьветны і нацыянальны ўздым.

Усё гэта было карысным у агульным ваенна-рэвалюцыйным тагдышнім часе. Але прайшла ваенная пажога, упаў рэвалюцыйны ўздым, настаў супакой, які падзяліў нашу зямельку на дзьве часьці.

Большую часьць захапіла чырвоная Маскоўшчына, а меншая засталася ў межах Польскай Рэчыпаспалітай.

Для беларускага народу, перадусім для яго інтэлігэнцыі, настаў час мазольнай адраджэнскай працы, працы ў кірунку культурна-асьветным, гаспадарчым і нацыянальнага ўсьведамленьня масаў. І вось датычна гэтае-ж працы Беларусь цяпер прадстаўляе дзьве супярэчныя часьціны: большая частка нашага народу, што захапіла Маскоўшчына, ня толькі што ня можа быць узгадоўваная

ў нацыянальным духу, але нават саджаецца ў вязьніцы за „нацыянал-дэмакратычны ўхіл“.

Другая, меншая частка народу, што асталася ў межах Польшчы можа быць бяз ніякага страху ўзгадованая у нацыянальным духу.

Тут можна сьмела будзіць у беларускіх масах патрыятызм, патрэбны кожнаму народу, хочучаму быць вольным.

Нацыянальнае пачуцьцё і патрыётызм, каторы ў Маскоўшчыне лічыцца за зло, тут уважаецца за цноту і абавязак кожнага грамадзяніна.

Аб нацыянальным узгадаваньні масаў у Савецкай Беларусі ня можа быць мовы, гэта ведае кожны беларускі інтэлігэнт, а хто ня верыў гэтаму і паехаў у Менск, ня выракшыся свайго патрыятызму, той апынуўся на Салоўках, або яшчэ і горш. Дзеля гэтага большасьць беларускай, нацыянальна думаючай інтэлітэнцыі засталася ў межах Польшчы. І вось тут, здавалася-б, што ўсе сьвядомыя беларускія народныя вярхі павінны-бы былі прыняцца да мазольнай творчай працы ў кірунку нацыянальнага адраджэньня свайго народу, у кірунку яго ўсьведамленьня. Але вось тут на жаль, тыя-ж вярхі, забыўшыся, што ўжыцьцявеньне, выявіўшайся 25 сакавіка 1918 г. сваей волі Беларусь немагла асягнуць дзякуючы нястачы патрыятызму у народных масах.

Яны—дзеячы і далей праводзяць галасьлівую палітыку, мала зьвяртаючы ўвагі на галоўную прычыну зла: нацыянальную несьвядомасьць большасьці народных масаў, якія ня маючы сваіх сталых патрыятычных пераконаньняў, ходзяць на павадку розных дэмагогаў.

Прыклад: у першых выбарах у сойм, дзякуючы таму, што будучы ў блёку меншасьцяў, беларусы мелі магчымасьць пасланць шмат агітатараў, было выбрана 11 паслоў, у наступных выбарах быў куды горшы вынік. У выбарах 1928 г. лідзкі вокруг выбраў 2 паслоў з палянафільскай групы, а па нейкім часе, калі былі перавыбары, гэты-жа самы вокруг выбраў двох паслоў з „Змаганьня“ (комунізуючых). І, напасьледак, у астатніх выбарах беларусы нявыбралі ніводнага пасла.

Калі дадаць яшчэ і тое, што ніводная парахвія (апрача Жодзішак) ані праваслаўная, ані каталіцкая агульна не дамагаецца правоў свае мовы ў сьвятынях, дык гэта аж натта даказвае, што беларускія масы нацыянальна несьвядомыя. І пакуль ў нашым народзе ня будзе агульнага патрыятычнага ўздыму, нашая незалежнасьць будзе толькі мрояй.

На жаль частка беларускіх кіруючых колаў у Польшчы замест рэальнай працы ў кірунку нацыянальнага ўсьведамленьня масаў, выкарыстоўваючы правы, якія дае польская канстытуцыя, аддаюць свае сілы на апазыцыйную барадзьбу, незадаволяныя вытварыўшымся палажэньнем і дамагаюцца ад Польшчы таго, да чаго яшчэ не пасьпелі ўзгадаваць народ.

Ня прыходзіць мо ім у думку, што калі-б якім надзвычайным выпадкам Польшча пакінула заходнія абшары Беларусі, дык прышла-б чырвоная Маскоўшчына і тады ўсе яны апынуліся-б у Салоўках за „нацыянал-дэмократычны ўхіл“.

Ўся праца пераважнай часткі цяперашніх Віленскіх дзеячоў палягае на тым, што час ад часу выдаюць газэціны, у якіх вучаць сялян як трэба паміж сабой папанску лаяцца, час ад часу зладзяць якую небудзь імпрэзу, якую ў сваёй газэце раздуюць з камара на сланя (каб вёска думала, што аж так многа у Вільні робіцца); час ад часу зноў абурацца, што вось тут Польшча пануе на Беларусі і няхоча ім даць незалежнасьці.

Разам з тым усе яны забываюць, што, каб не існавала незалежная Польшча, дык наагул ня было-б цяпер ніякага беларускага пытаньня.

Мы добра ведаем чаму гэта, напрыклад, камуністычная ўлада ў Савецкай Беларусі ўдавала, у свой час, што ідзе на спатканьне дамаганьням нацыянальна сьвядомай часткі беларускага грамадзянства. Ёй залежала на тым, каб перацягнуць на свой бок сымпатыю той часткі беларускага народу, якая знаходзіцца ў межах Польшчы і гэтым пасеяць нязгоду паміж двумя братнімі народамі.

Апошнія падзеі ў Менску зусім ясна паказалі запраўднае аблічча камуністычнай улады.

Трэба прыйсьці нарэшце да пераконаньня, што ўсе творчыя беларускія сілы павінны быць скіраваны да мазольнай працы патрыятычнага ўзгадаваньня нашага народу; каб ён паднесяны нацыянальным патрыятычным пачуцьцём і абапёрты на сільную Польшчу, у адпаведнаю часіну злучыў свае землі і быў вольным.

*У. Казлоўскі.*

# Беларуская хроніка.

## Музэй

Нашае грамадзянства, занятае „партыйнымі“ і асабістымі сваркамі, вельмі мала цікавіцца сваімі інстытуцыямі і арганізацыямі.

Маем напр. музэй, у якім павінны быць запраўды цікавыя і цэнныя рэчы, але ён пастаўлены так, што мала хто ведае што там робіцца і як ён вядзецца. Фармальна музэй знаходзіцца пад кіраўніцтвам Навуковага Т-ва, але мы добра ведаем, што Навуковае Т-ва зьяўляецца „мертваю арганізацыяю ў якую ўваходзяць, як у нас гавораць, „Петренко і те-же“.

Кажуць, што магістрат і ўрад выдаюць Музэю дапамогу у разьмеры 1500 зл. месячна—гэта вельмі добра і на такія грошы можна шмат чаго зрабіць.

Але на жаль нашае грамадзянства зусім ня ведае, што на гэтыя грошы купляецца і наагул куды яны ідуць.

Прынамсі да гэтага часу ня было ніякай публічнай справаздачы і рэвізыі і ніхто яе не дамагаецца. Справа стаіць так, што трэба каб нашае грамадзянства, бяз розьніцы кірункаў, выявіла больш зацікаўленьня да сваіх установаў, уваходзіла ў іх сябры і рабіла там „аздараўленьне“, бо нам здаецца, што запраўды яны крыху заплесьнелі і пачынаюць траціць грамадзкі характар.

## Дом Беларускай Культуры

У свой час многа гутарак было аб неабходнасьці пабудаваць сваю „Беларускую Хату“ і дзеля гэтага па усей нашай Бацькаўшчыне і нават за-граніцаю зьбіраліся грошы на „Дом Беларускай Культуры“. Былі такія самаахвярныя беларусы, якія нават седзючы у вастрогах, урэзвалі свой арыштанскі бюджэт і высылалі складкі ў Вільню. Ішлі грошы і з правінцыі і назьбіралася іх вялікая, як на нашыя варункі, сума — усяго 10,000 зл., паступіўшыя у распараджэньне, як мы давеdаліся, Навуковага Т-ва.

Вось-жа цяпер паўстаець пытаньне: што рабіць далей?

На нашую думку трэба скласьці нейкую каліцыйную камісію, якая павінна закончыць справу, распачатую некалькі гадоў таму назад. Перадусім трэба, каб грамадзянства зацікавілася лёсам сваіх ахвяраў і выясьніла чаму гэта справа замерла.

## Віленская Беларуская Гімназія

У нашай гімназіі стварылася вельмі цяжкая атмасфэра, дзякуючы таму, што некаторыя вучыцялі задалёка заангажаваліся ў палітыку і свае партыйныя і асабістыя парахункі выносяць праз газэту на вуліцу.

Гэта вельмі дрэнна адбіваецца на моладзі ў рады якой уносіцца дэмаралізацыя. Бацькаўскі камітэт, які зьяўляецца адказным за лёсы, як гімназіі, так і моладзі, павінен як найхутчэй заняцца ўнутранымі справамі гімназіі і правесьці там запраўдную і радыкальную чыстку, выкінуўшы адтуль тых вучыцялёў, якія не адпавядаюць свайму назначэньню.

## Што робіцца у Клецкай гімназіі?

Лёсам Клецкай гімназіі абяцаў заапякавацца Цэнтрасаюз, але да гэтага часу нічога канкрэтнага ў гэтым кірунку ня зроблена.

А між іншым трэба было-б паінфармаваць грамадзянства, што запраўды будзе з гэтаю гімназіяю.

На грунце такой „таямнічасьці“ пашыраюцца розныя, магчыма няслушныя чуткі.

Дырэктар Клецкай гімназіі Якубенак пісаў напрыклад, у Цэнтрасаюз, што сярод вучыцялёў упорчыва ходзяць чуткі, што адзін з сяброў прэзыдіюму Цэнтрасаюзу (нават падаваў яго прозьвішча) атрымаў 1000 зл. на ліквідацыю даўгоў гімназіі, але да гэтага часу Клецкая гімназя ніякіх грошаў не атрымала.

Ці гэта так ці не—сказаць ня можам, але наагул у кожнай падобнай справе не павінна быць ніякіх таямніцаў.

## Новая культ-асьветная і гаспадарчая арганізацыя „Аб'яднаньне“

У нядзелю 10 траўня г. г. адбылося прыватнае паседжаньне групы Ініцыятараў, у ліку 15 асобаў, якія ўхвалілі стварыць новую культурна—асьветную і гаспадарчаю пляцоўку, даўшы ёй назоў „Аб'яднаньне.“

Прысутныя ўпаважнілі гр. гр. Акінчыца і Казлоўскага прыступіць да безадкладнай апрацоўкі адпаведнага статуту і да іншых падгатаваўчых крокаў. Ініцыятары пастанавілі прыняць заходы да выдавецтва сельска-гаспадарчага і кооперaтыўнага часопісу, прыстасаванага да інтэлектуальнае роўні нашага сялянства. На супрацоўніцтва ў новай часопісі запрошаны фаховыя сілы.

Такі крок трэба толькі прывітаць, бо ўжо даўно адчувалася у нашым грамадзянстве патрэба стварэньня такой культурна-асьветнай і гаспадарчай арганізацыі, якая-б занялася шчыраю працаю на карысьць нашага народу і ў якую ўліліся-б маладыя грамадзкія сілы.

Нам трэба аздаравіць нашае грамадзкае жыцьцё, трэба ўліць у яго новыя сьвежыя сілы і запраўды стварыць такую арганізацыю, якая-б на грунце сучаснай канстытуцыі і права імкнулася-б да адраджэньня нашага народу.

У гэткай арганізацыі павінна быць выэліміnavана ўсякая „палітыка“ і яна павінна весьці выключна пазытыўную працу, адкінуўшы ўсякія палітычныя і асабістыя парахункі.

Што з таго што мы маем рад перасвараных паміж сабою культурна-асьветных арганізацыў.

„Аб'яднаньне“ мусіць запраўды аб'яднаць у сваіх радох усіх шчырых барацьбітоў за нашыя ідэалы ўсіх тых, хто хацеў-бы лепш мець сініцу ў руках чым жураўля ў небе. Працы ёсьць шмат, але на жаль мы ня хочам, ці ня умеем яе весьці.

На заклік наш, каб прыступіць да безадкладнага стварэньня новае культурнае пляцоўкі—адгукнулася найбольш актыўная часта грамадзянства і мы маем надзею, што у хуткім часе „Аб'яднаньне прыступіць да практычнае працы.

# Заява, пададзеная гр. Акінчыцам у Прэзыдіюм Б. Ц. Саюзу.

Будучы выбраны на І зьезьдзе прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў і інстыт. у сябры прэзыд. Цэнтрасаюзу—я выконываў у ім абавязкі сэкрэтара да сакавіка г. г.—а пасьля звычайнага сябры прэзыдіюму.

Падчас апошніх выбараў—выконваў абавязкі Старш. Выб. К-ту Центрасаюзу.

Праца ў Цэнтрасаюзе і бліжэйшае азнаемленьне з тымі людзьмі, якія займаюць у ім кіруючыя становішчы прывялі мяне да пераконаньня што гэтыя людзі сьвядома вядуць беларускую справу па фальшывай дарозе, што яскрава выяўляецца з ніжэй пададзенага.

Галоўным кіраўніком Цэнтрасаюзу зьяўляецца Ант. Луцкевіч, які па сваяму старому звычаю вядзець „кіраўніцтва“ з-за плечаў іншых людзёй, адмовіўшыся падчас выбараў прэзыдіюму ўвайсьці ў яго склад.

Такое палажэньне лічу зусім ненармальным і тлумачу яго тым, што Ант. Луцкевіч гэткаю сваёю палітыкаю“ хоча пазбавіцца грамадзкай адказнасьці за працу Цэнтрасаюзу і на ўсялякі выпадак захаваць сваю „нявіннасьць.“

Лічу, што ўсякі запраўдны грамадзкі дзеяч пратэндуючы на кіраўнічую роль—павінен зусім адкрыта ўваходзіць у рады тых сяброў з якімі-б ён хацеў працаваць.

„Канспірацыя“ Луцкевіча даходзіць нават да таго, што ён імкнецца ўкрыць сваё супрацоўніцтва у газ. Бел. Звон.

Газэта „Беларускі Звон“ зьяўляючыся органам Бел. Цэнтрасаюзу прыняла такі характар, з якім я пагадзіцца не магу.

Нават у такім пытаньні, як адносіны да камуністычнае партыі як, такой газэта, дзякуючы Луцкевічу, не зможа правесьці пэўнай акрэсьлянай лініі.

„Палемічныя“ выпады газэты, дзякуючы таму-ж Луцкевічу, прынялі характар бруднай лаянкі з-за нейкіх яго асабістых парахункаў, якім не прадбачыцца канца. Дзякуючы гэтым прычынам газэта страціла пашану ў нашым грамадзянстве і дзеля гэтага супрацоўніцтва ў ёй не магчыма для ўсякага шануючага сябе чалавека.

У зьвязку з выхадам у сьвет маёй брашуры з прычыны выезду за граніцу б. грамадаўцаў, у прэзыдіюме Цэнтрасаюзу выявіліся такія разыходжаньні, якія трудна пагадзіць.

Дайшло да таго, што Выд. Т-ва. на чале якога стаяць Луцкевіч і Трэпка забараніла распаўсюджваць праз кнігарню Т-ва. маю брашуру.

Практычная праца сучаснага кіраўніцтва Цэнтрасаюзу задаволіць мяне не магла.

Вельмі мала зьвярталася ўвагі на працу на правінцыі, спыніліся лекцыі, быццам з-за адсутнасьці грошаў, не аказвалася ніякай запамогі Клецкай Белар. гімназіі, урэзываліся крэдыты на завочныя кооп. курсы і г. д.

Разам з гэтым ня была арганізавана правідловая адчотнасьць, як у прыходаваньні сродкаў Цэнтрасаюзу, так і ў іх расходаваньні дзеля чаго шырэйшыя колы сяброў Цэнтрасаюзу ня мелі магчымасьці зазнаёміцца з фінансаваю гаспадаркаю сваёй арганізацыі, якою бескантрольна распараджалася некалькі „утаемнічаных“ асобаў.

З сакавіка г. г. ня было склікана ані воднага Паседж. Прэзыдіюму Цэнтрасаюзу і справы нават такія, якія патрабавалі калегіяльнага вырашэньня ў прысутнасьці ўсіх сяброў прэзыдіюму вырашаліся Астроўскім, Луцкевічам і Трэпкаю—„калейна.“

Усё вышэй пададзенае робіць маю працу ў сучасным складзе прэз. Цэнтрасаюзу немагчымаю дзеля чаго я змушаны выйсьці з ліку яго сяброў не чакаючы наступнага зьезду на якім павінен быць выбраны новы склад прэзыдіюму і на якім я здам справаздачу аб сваёй працы ў Цэнтрасаюзе і прычынах майго перадчаснага выхаду. Разам з гэтым зракаюся ўсялякага супрацоўніцтва і ў газ. „Бел. Звон“.

11 траўня 1931 г. *Ф. Акінчыц.*

Рэд.-Выд. Ф. АКІНЧЫЦ.

Друкарня У. Знамяроўскага, Вільня, Квашэльная 23